*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 36(92) ◈ 9 верасня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)


## Поступ тыдня

*СВЯТА БЕЛАРУСКАГА ВОЙСКА адбылося 8 верасня на плошчы Незалежнасці сталіцы рэспублікі. Яно праведзена па ініцыятыве Беларускага згуртавання вайскоўцаў, БНФ і іншых дэмакратычных арганізацый. Выступаючыя адзначалі, што здаўна воіны-беларусы даказалі, што здольныя менш колькасцю, але з дапамогай мужнасці і вайсковага ўмельства перамагаць пераўзыходзячыя ў некалькі разоў сілы захопнікаў, як гэта яны зрабілі каля Оршы яшчэ 478 гадоў таму назад.*

* * *

**СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ ПАЧНЕЦЦА 20 КАСТРЫЧНІКА,** як вырашана на пасяджэнні яго Прэзідыума. Да разгляду на сесіі прапануецца ўключыць пытанне аб праекце Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь, ваеннай дактрыне, раздзяржаўленні і прыватызацыі ўласнасці, аб праве ўласнасці на зямлю і нарэшце — аб рэспубліканскім рэферэндуме.

* * *

*ПРЫКЛАДНА 65—67 ПРАЦЭНТАЎ ПЕРШАКЛАСНІКАЎ, па звестках Упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі, будуць у рэспубліцы вучыцца на беларускай мове, астатнія — на рускай. Дарэчы, будзе захавана даплата настаўнікам, якія вядуць навучанне на беларускай мове.*

* * *

**6 ВЕРАСНЯ АДБЫЛОСЯ ЎРАЧЫСТАЕ ПРЫНЯЦЦЕ ПРЫСЯГІ** на вернасць Беларусі курсантамі першых курсаў Менскага вышэйшага вайсковага каманднага вучылішча і Менскага вышэйшага вайсковага інжынернага вучылішча.

*СТВОРАНА МАСКОЎСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ БЕЛАРУСАЎ «Бацькаўшчына». Мэта і задачы яго — вывучэнне і прапаганда беларускай культуры, гісторыі, мовы, наладжванне цесных сувязей з беларусамі ва ўсім свеце, узаемадапамога і абарона інтарэсаў сваіх членаў у дзяржаўных органах.*

**Міжнародная навуковая канферэнцыя «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў»**

## ПАЧЫНАЕМ РАЗУМЕЦЬ САМІХ СЯБЕ

*19 і 20 жніўня жыццё маладзечанцаў было адзначана незвычайнай падзеяй. У іхнім старажытным горадзе сабраліся вучоныя (гісторыкі, этнографы, лінгвісты, літаратуразнаўцы), настаўнікі, літаратары і іншыя зацікаўленыя людзі нашай рэспублікі і іншых краін свету (ЗША, Канады, Польшчы, Украіны, Англіі, Нямеччыны, Расіі, Славеніі, Аўстрыі) на міжнародную навуковую канферэнцыю «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў».*

**Арганізатары канферэнцыі — Беларускі дзяржаўны універсітэт, Маладзечанскі гарвыканкам, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны. Дабрадзеі — Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (Нью-Йорк), Маладзечанскі Бізнес-Цэнтр, Міжнародная школа беларускай мовы, літаратуры і культуры (Менск), Радашковіцкі завод мастацкай керамікі. Да канферэнцыі выпушчана МП «Крок уперад» кніга «З глыбіні вякоў», што выдавалася бясплатна.**

**Маладзечанская зямля сардэчна сустрэла гасцей, а яе гаспадары стварылі спрыяльныя ўмовы для плённай працы і адпачынку. У гарадской бібліятэцы, дзе праходзіла работа секцый, удзельнікі канферэнцыі змаглі пазнаёміцца з цікавымі работамі мясцовых мастакоў, на якіх адлюстравана і наша гісторыя, і наш час, а таксама з вырабамі вучняў маладзечанскай школы з мастацкім ухілам.**

**У рабоце канферэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі грамадскасці г. Маладзечна, часовы павераны ў справах Рэспублікі Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулкова, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь, пастаянны прадстаўнік рэспублікі пры ААН Генадзь Бураўкін, народныя пісьменнікі Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч, міністр культуры Яўген Вайтовіч, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Алег Трусаў.**

**Двухдзённая работа канферэнцыі ўключала пленарныя пасяджэнні і секцыі — «Вопыт гісторыі», «Шляхі Адраджэння», «Мова, мастацкае слова, рэлігія».**

**Пасля пранікнёных прывітальных слоў у адрас канферэнцыі народных пісьменнікаў Ніла Гілевіча і Васіля Быкава, намесніка старшыні Маладзечанскага гарвыканкама, народнага дэпутата РБ Віктара Ганчара, міністра культуры Яўгена Вайтовіча, народнага дэпутата рэспублікі Алега Трусава і святара Яна Міцько першае слова даецца доктару філасофскіх навук Уладзіміру Конану. Ён выступіў з дакладам «Архетыпы беларускага менталітэту: спроба рэканструкцыі паводле міфалогіі і казачнага эпасу».**

**За ім выступае доктар Ян Запруднік са Злучаных Штатаў Амерыкі. Яго даклад «Дваранства і беларуская мова (да праблемы «Асновы беларускага светапогляду»)» засяродзіў увагу слухачоў на тым, як увесь час звужалася паняцце беларушчыны, як зводзілі яго да сялянскага аспекту, і што крыніца нашай сілы — гэта разуменне саміх сябе.**

**Эмацыянальным было выступленне вядомага гісторыка Міколы Ермаловіча «Гістарычная памяць і яе значэнне ў нацыянальным Адраджэнні». Прысутныя апладзіравалі яму больш за ўсіх. І гэтым была выказана падзяка не толькі за яго даклад, але і за той уклад, які ён зрабіў у гістарычную навуку Беларусі. І, відаць, поўнасцю можна згадзіцца з думкай навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі АН Беларусі Андрэя Кіштымава, якую падтрымалі ўдзельнікі секцыі «Шляхі Адраджэння», што Мікола Ермаловіч адкрыў для нас старажытную Беларусь як Калумб Амерыку, што гэта вучоны ў самым шырокім сэнсе слова, хоць і не мае ніякіх званняў ды тытулаў.**

**На пленарным пасяджэнні былі праслуханы і даклады доктара філалагічных навук Аляксея Каўкі (Масква) «Заходнерусізм як праблема беларускай самасвядомасці», доктара гістарычных навук Леаніда Лыча «Нацыянальная самасвядомасць беларусаў і рэлігія», кандыдата гістарычных навук Паўла Цэрашковіча «Фарміраванне традыцыйнай этнічнай ментальнасці беларусаў».**

**У час пленарнага пасяджэння прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс, які вёў канферэнцыю, уручыў 17 актыўным удзельнікам адраджэнскага працэсу Ганаровыя медалі з выявай Ефрасінні Полацкай (у іх ліку Эльжбета Смулкова, Ян Запруднік, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Васіль Быкаў, Мікола Ермаловіч, Алег Трусаў, А. Каўка, Герман Бідэр з Зальцбургу і інш., а таксама аб'явіў, што вядомы спявак Данчык прыслаў у адрас канферэнцыі запісы сваіх новых песень.**

**Далейшая работа праходзіла па секцыях. Патрэбна адзначыць, што ў кожнай секцыі было прадстаўлена шырокае кола выступаючых, пачынаючы з вядомых вучоных і канчаючы настаўнікамі, аспірантамі і студэнтамі, у тым ліку з Маскоўскага універсітэта.**

**Кіраўнікі секцый у сваіх справаздачах на заключным пленарным пасяджэнні адзначалі высокую актыўнасць і зацікаўленасць удзельнікаў, багацце фактычнага матэрыялу, цікавыя заключэнні і вывады.**

*(Працяг на с. 2).*

**Ніл ГІЛЕВІЧ, народны паэт Беларусі, старшыня рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы**

## «Наш найпершы і найвысокі, наш святы абавязак»

Шаноўныя спадарыні і спадары!

Лёс павярнуўся да Беларусі тварам: яна набыла статус суверэннай, незалежнай дзяржавы. Шырыцца прызнанне Рэспублікі Беларусь у свеце, унутры дзяржавы прымаюцца захады для больш актыўнага эканамічнага і палітычнага самастанаўлення.

Набыццё дзяржаўнай незалежнасці — акт лёсавызначальнага значэння ў гісторыі беларускага народа, і гэты акт неабходна належным чынам усвядоміць. І ўсвядоміць — усенародна, усёю шматмільённай масай жыхароў Беларусі, усім яе грамадствам. Гэтаксама і беларусамі за межамі Беларусі. Нельга сказаць, што працэс гэтага ўсведамлення, па тых тэмпах, як ён ідзе сёння, нас задавальняе. На жаль, ён ідзе марудна, таму што адразу ж наткнуўся на моцныя сілы процідзеяння, сілы, якія хацелі б павярнуць кола гісторыі назад. Чым гэтыя рэтраградскія сілы ўзброены? Па-першае, імперскай вялікадзяржаўнай палітыкай. Па-другое, нацыянальным нігілізмам. Яны апіраюцца на тое, што ёсць нашай вялікай беларускай бядой — на слабую нацыянальную самасвядомасць беларусаў. Нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці — самая цяжкая спадчына, якую пакінулі нам і царызм і дзесяцігоддзі панавання бальшавіцкай дыктатуры. І гэтую бяду нам трэба адолець — абавязкова і ў першую чаргу. Бо без гэтага сапраўдны рух наперад немагчымы. Інакш будзе эканамічна-сацыяльнае развіццё не Беларусі, а пэўнай эканамічнай зоны, будзе дзяржаўна-палітычнае станаўленне не Беларусі, а «северо-западного края». Без уздыму нацыянальнай самасвядомасці ні пра якое беларускае нацыянальнае адраджэнне гаварыць не прыходзіцца. Як і пра кансалідацыю нацыі. Палітыка нацыянальнай згоды, якая многімі грамадска-палітычнымі коламі абвяшчаецца,— разумная палітыка, але яна можа быць рэальнай і дзейснай сілай пры адной умове — калі будзе стаяць на грунце нацыянальнай самасвядомасці народа. Толькі і толькі так!

Вось чаму Міжнародная канферэнцыя на тэму «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў» уяўляецца нам вельмі і вельмі своечасовай. Няма сумнення, што так маштабна арганізаваная, яна дасць добрыя вынікі. Яна выявіць розныя погляды на шматлікія пытанні нашай нацыянальнай гісторыі і нацыянальнага адраджэння. Яна падыме да ўжытку, да карыстання грамадскасцю новыя багатыя навуковыя матэрыялы па азначанай тэме. Яна будзе моцным імпульсам для далейшай працы ў гэтым кірунку. Тым больш, што канферэнцыя такая прадстаўнічая, сабрала такіх выдатных навукоўцаў і асветнікаў.

Не магу, праўда, не выказаць шкадавання, што не бачу тут некаторых навукоўцаў, чый уклад у развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў вельмі адчувальны. Не ведаю, па якой прычыне не бяруць удзелу ў рабоце канферэнцыі віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, прадстаўнік слаўнага роду дзеячаў беларускай навукі і культуры Радзім Гарэцкі, выдатны вучоны-гісторык, кіраўнік Беларускай энцыклапедыі Міхась Ткачоў, вядомыя навукоўцы Зянон Пазьняк, Юрась Хадыка і некаторыя іншыя.

Шаноўнае спадарства! Вельмі паважаныя замежныя госці, калегі-навукоўцы, сябры! Ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета, ад імя Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, ад імя шматлікай арміі ТБМ, ад сябе асабіста дазвольце шчыра вітаць вас з гэтай важнай падзеяй у культурным, у духоўным жыцці беларускага народа і пажадаць вялікага плёну ў працы на працягу гэтых двух дзён. Дазвольце выказаць упэўненасць, што справа, якая паклікала і сабрала нас, будзе і надалей нашым найпершым, нашым найвысокім, нашым святым перад Бацькаўшчынай абавязкам.

Жыве Беларусь!

*Беларускае замежжа*

# «Хоць беларус і мову пакінуў, але ён не памёр»

***(Сустрэча з доктарам Янам Запруднікам)***

Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны стаў месцам правядзення традыцыйных сустрэч з замежнымі суайчыннікамі. Такіх сустрэч тут адбылося ўжо з добры дзесятак, ад сустрэчы з а. Аляксандрам Надсанам і да зусім нядаўняй сустрэчы з прафесарам Барысам Кітам, бацькам амерыканскай астранаўтыкі, які прыязджаў да нас з дабрадзейнай місіяй.

17 жніўня госцем Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны стаў добра вядомы ў беларускім замежжы і на Радзіме доктар Ян Запруднік. У свой час, рэдагуючы газету «Беларус», ён правёў вялікую работу па яднанні ўсіх сіл беларускага замежжа і таму па праву лічыцца адным з лідэраў беларускай эміграцыі.

З уступным словам выступіў прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны прафесар А. Мальдзіс. Ён пазнаёміў прысутных, сярод якіх былі народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь, навукоўцы, літаратары, артысты і іншыя прыхільнікі беларускага Адраджэння, з госцем, некалькі слоў сказаў пра яго жыццёвы і творчы шлях, даў кароткі агляд яго навуковых прац, шэраг якіх апублікаваны ў Злучаных Штатах Амерыкі. Удзельнікі імпрэзы даведаліся таксама, што цяпер доктар Ян Запруднік па заказу аднаго з вядомых амерыканскіх выдавецтваў працуе над кнігай пра Беларусь.

У сваім выступленні Ян Запруднік расказаў пра сябе. Нарадзіўся ў Міры. Вучыўся ў Баранавічах у гімназіі. Настаўнікамі былі браты Луцкевічы, Лявон і Юрка. (Нядаўна наведаў іх у Вільні і з сумам даведаўся, што Юрка Луцкевіч памёр). І вось тут, у Баранавічах, у 17 гадоў вымушаны быў зрабіць свой выбар, вярнуцца дамоў ці ехаць на Захад. Выбраў другое. Можа, дзякуючы гэтаму і жыццё захавалася. Але на эміграцыі час дарэмна не марнаваў. У першыя пасляваенныя гады скончыў гімназію імя Я. Купалы, пасля працаваў у сферы інфармацыі на радыё «Свабода», паралельна займаўся грамадскай і навуковай працай, супрацоўнічаў у Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва.

Прысутных, безумоўна, цікавіла праблема выхаду Беларусі на міжнародную арэну, адносіны да яе, асабліва пасля таго, як была абвешчана суверэннасць рэспублікі. Ян Запруднік падрабязна спыніўся на змене назвы нашай дзяржавы, на перакладзе новай назвы на замежныя мовы. З цікавасцю прысутныя даведаліся, што ў амерыканскім друку штодзённа падаецца інфармацыя пра Беларусь. А з'яўленне яе на картах Усходняй Еўропы сведчыць, што беларусаў ужо ведаюць у свеце, цікавяцца іх гісторыяй і культурай, наладжваюць з імі эканамічныя сувязі і ўмацоўваюць чалавечыя кантакты.

Д-р Запруднік спыніўся на праблеме нацыянальнай свядомасці. Ён выказаў цікавую думку: хоць беларус і мову пакінуў, але ён не памёр, таму што ў яго ёсць свая гістарычная спадчына, уласныя традыцыі, родная зямля. І беларус можа гаварыць на іншай мове, быць любога веравызнання, але перш-наперш у яго павінна быць разуменне сваёй адметнасці і нацыянальнай годнасці.

Напрыканцы сустрэчы д-р Ян Запруднік адказаў на пытанні прысутных.

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# Валянціна Сярых і яе «Званочкі»

Валянціна Сярых — вядомы беларускі кампазітар, аўтар шматлікіх эстрадных песень для дзяцей і дарослых, якія выконваюць Н. Мікуліч, В. Кучынскі, А. Саўленайтэ, Н. Бернацкая, Я. Навуменка. Валянціна Сярых з'яўляецца мастацкім кіраўніком дзіцячага ансамбля «Званочкі», чый звонкі голас можна пачуць не толькі ў Беларусі, але і далёка за межамі нашай краіны. Карэспандэнт «Нашага слова» сустрэўся з Валянцінай Васільеўнай і задаў ёй некалькі пытанняў.



**— Раскажыце пра пачатак свайго творчага шляху.**

— Мне было каля шасці гадоў, калі паступіла ў Вілейскую музычную школу. Неўзабаве мы пераехалі ў Гомель, дзе я і набыла першую музычную адукацыю. Пасля школы адна з маіх першых настаўніц Інга Аляксандраўна Несцяровіч прывезла мяне ў Менск з маімі творамі, якіх за свае пятнаццаць гадоў я напісала ўжо даволі шмат. Я паступіла ў Менскае музычнае вучылішча. Акрамя вучобы ў вучылішчы, брала бясплатныя ўрокі ў прафесара кансерваторыі Мікалая Ільіча Аладава, які сам мне гэта прапанаваў. Пасля яго смерці стала займацца таксама бясплатна ў Ігара Лучанка.

За час вучобы ў Ігара Лучанка склала вялікую музычную праграму з твораў розных напрамкаў: харавых, інструментальных, вакальных. Вучылішча, як і школу, скончыла на выдатна. Паступіла ў маскоўскі інстытут імя Гнесіных на кампазітарскі факультэт. У Маскве, пазнаёміўшыся з Анастасіяй Цвятаевай, сястрой Марыны Цвятаевай, палюбіла паэзію і стала пісаць вакальныя творы. Пра творы для дзяцей і не марыла. У нашай строгай і класічнай вучобе гэта лічылася не вельмі сур'ёзнай справай.

**— З якога часу Вы размаўляеце па-беларуску?**

— Беларускую мову вывучала самастойна ў пачатку васьмідзесятых гадоў. У школе ад беларускай мовы мяне вызвалялі як дачку вайскоўца, і я ў той час лічыла гэта нармальным.

**— Што паўплывала на Ваш зварот да роднай мовы?**

— Падчас вучобы ў аспірантуры інстытута імя Гнесіных я трапіла ў студэнцкае інтэрнацкае асяроддзе, дзе існавалі розныя суполкі, у якія аб'ядноўвалася моладзь, і звычайна гэтыя суполкі былі зямляцкія. Жыла з латышкамі, да якіх кожны дзень прыходзілі сябры, што размаўлялі толькі па-латышску. Мае ж сябры з Беларусі са мной гаварылі па-расійску, і латышкі дзівіліся: «Хіба ў беларусаў няма сваёй мовы?» Мне было няёмка, спрабавала растлумачыць, што беларуская мова падобная на расійскую, таму для нас больш звыкла гаварыць на ёй. Латышкі не разумелі маіх тлумачэнняў і паказвалі на дзверы, што былі насупраць нашага пакоя: за імі жылі ўкраінцы, якія таксама гаварылі на роднай мове. У мяне быў беларуска-расійскі слоўнік, і латышкі казалі, што калі ёсць такі слоўнік, то, пэўна, ёсць і розніца паміж мовамі.

Прыязджаючы ў Менск, адчувала і бачыла, што зараджаецца хваля Адраджэння. І добра падумаўшы, напярэдзіла сваіх землякоў, каб, калі будуць прыходзіць да мяне, размаўлялі са мной толькі па-беларуску, каб мне сорамна не было. Да ўсяго папрасіла сваіх сяброў у Менску, каб лісты да мяне пісалі толькі на роднай мове. Усе мяне падтрымалі, і ў хуткім часе я адчула сябе не проста аспіранткай з Беларусі, а беларускай, якая прадстаўляе Беларусь.

**— Значыць, у Беларусь пасля вучобы ў Маскве вы вярнуліся свядомай беларускай?**

— Так. Акрамя таго, вярнуўшыся ў Менск, начала здзяйсняць сваю даўнюю мару — стварэнне музыкі для дзяцей, а таксама свайго ансамбля, які б мог гэтыя творы выконваць. У 1991 годзе ў выдавецтве «Беларусь» выдала свой першы аўтарскі зборнік песень для дзяцей. Працавала ў дзвюх музычных школах, выкладала кампазіцыю для дзяцей. Спасцігаючы псіхалогію і іх унутраны свет, вельмі захапілася гэтай справай, і хутка мяне заўважылі на тэлебачанні. Прапанавалі весці перадачу для дзяцей «Разам з песняй», дзе дзеці маглі б паказаць свае першыя творы. Пасля некалькіх гадоў адчула, што толькі вучыць дзяцей сачыняць музыку мне ўжо недастаткова. Так прыйшла да ідэі стварэння свайго дзіцячага ансамбля.

**— Як жа нарадзіліся «Званочкі»?**

— Я прыйшла ў звычайную сярэднюю школу № 156, якая была насупраць майго дома, і прапанавала дырэктару стварыць свой эстрадны ансамбль. У мяне ўжо быў рэпертуар. Мяне падтрымалі, і я пачала падбіраць дзяцей. Выбірала па інтуіцыі.

У 1990 годзе ў філармоніі ў адным з нядзельных канцэртаў для бацькоў і школьнікаў адбылося наша першае выступленне. Нас адразу заўважылі і пачалі запрашаць на іншыя канцэрты. Мы далучыліся і да дабрачыннай хвалі на карысць дзяцей Чарнобыля. Ездзілі да хворых дзяцей у Аксакаўшчыну, гематалагічны цэнтр, у дамы сірот, інтэрнаты, шпіталі, пасябравалі з многімі грамадскімі арганізацыямі.

Мне прапанавалі перайсці працаваць у Рэспубліканскі эстэтычны цэнтр выхавання дзяцей. Аднак пасля пераходу сувязей з роднай 156-ай школай не парываю. За два гады існавання ансамбля ў нас склаўся вялікі рэпертуар, стварылася некалькі падгруп: з самых маленькіх (5—6 гадоў), старэйшага ўзросту, падлеткавыя групы. Дзеці спяваюць на пяці мовах, але асноўны рэпертуар — беларускі.

**— Хто для ансамбля піша песні?**

— Для «Званочкаў» сама пішу песні і раблю апрацоўкі народных беларускіх песень, пішу сцэнарыі канцэртаў. З'яўляюся адначасова і балетмайстрам, і хармайстрам, і рэжысёрам-пастаноўшчыкам. Галоўная задача — як мага больш раскрыць творчыя магчымасці дзяцей. Дзеці ў «Званочках» не толькі іграюць на музычных інструментах, спяваюць і танцуюць, але і вывучаюць замежныя мовы і нават малююць. Выставы нашых малюнкаў былі ў Амерыцы, у Нямеччыне. Дзякуючы сваім малюнкам і паездкам за мяжу, мае «Званочкі» маюць шмат сяброў у Польшчы, Нямеччыне, Італіі, Амерыцы.

Паколькі песні ў нас не проста спяваюцца, а яшчэ і інсцэніруюцца, спецыялісты кажуць, што мы ўжо перараслі назву проста ансамбля і зараз з'яўляемся дзіцячым тэатрам песні, магчыма, першым на Беларусі.

**— З кім сябруюць «Званочкі» ў Беларусі, хто вам дапамагае?**

— На жаль, у нас няма яшчэ багатых спонсараў. Не маем свайго асабістага памяшкання. Касцюмы і інструменты купляем сабе самі. Да ўсяго, я працую з дзецьмі адна. Сяброў хапае, але яны такія самыя беднякі, як і мы.

**— Як да вас ставяцца ўлады, а таксама сябры, калегі?**

— Добра. Мне прапаноўвалі працу ў грамадскіх арганізацыях, але я хачу працаваць незалежна. Некаторыя сябры і калегі напачатку ўспрынялі мае «Званочкі» з недаверам, нават часам адпускалі ў мой бок «шпількі», але пасля ўсе прывыклі і нават падхапілі маю ідэю дзіцячага ансамбля, сталі прапаноўваць і свае творы.

**— Хто менавіта?**

— Буднік, напрыклад.

**— А яшчэ?**

— Зміцер Яўтуховіч, які таксама зусім нядаўна распачаў працу над стварэннем дзіцячых твораў і дзіцячага ансамбля.

**— Як ставяцца дзеці са «Званочкаў» да беларускай мовы?**

— Дзеці стараюцца гаварыць па-беларуску. Далучэнне дзяцей да роднай мовы ў нас пачынаецца з беларускіх песень. Любімая наша песня «Купалінка».

**— Вашы далейшыя планы?**

— Думаем папоўніць свой рэпертуар песнямі на французскай і яўрэйскай мовах. Папоўніць калектыў новымі дзецьмі, хоць, шчыра кажучы, не ведаю, як у мяне адной на ўсё хопіць сіл.

**Распытваў Віктар ШНІП.**



Вучымся!

# ЛЕТНЯЯ ШКОЛА

**Вывучэнне, апроч роднай, яшчэ якой-небудзь мовы, знаёмства з іншай культурай — звычайная справа ў цывілізаваным свеце. Для такіх аматараў ствараюцца належныя ўмовы, летнія універсітэты, школы, курсы. Другое лета і ў нашу рэспубліку прыязджаюць студэнты і прафесары, каб навучыцца беларускай мове ці ўдасканаліць сваё веданне «адной з самых старажытных і дасканала распрацаваных моў». Для іх пры Беларускім дзяржаўным універсітэце працуе Міжнародная школа беларусістыкі (МШБ). Мы папрасілі Уладзіміра Навумовіча, яе дырэктара, пазнаёміць нашых чытачоў з гэтай незвычайнай навучальнай установай.**

СЁННЯ мы шмат гаворым і пішам пра тое, як нам найхутчэй увайсці ў вольную сям'ю народаў Еўропы, спадзяёмся на дапамогу заходніх краін, але мала ўсведамляем, што мы — Беларусь і беларусы — уяўляем надзвычайную цікавасць для свету сваімі скарбамі. Гэтыя скарбы — нашы веды, усё тое, што мы ўмеем і можам рабіць, ствараць. У асяроддзі вучоных, пераважна вучоных-славістаў, даўно жыла трывалая цікавасць да вывучэння беларускай мовы і да створанага на гэтай мове багацейшага пласта беларускай літаратуры, культуры як духоўнай, так і матэрыяльнай. І таму не дзіўна, што летась першымі выпускнікамі нашай школы сталі больш за трыццаць навукоўцаў з Польшчы, Германіі, Чэхіі. Як тут не ўспомніць таленавітага італьянскага юнака Паола Гальвані, бакалаўра Балонскага універсітэта, які ведаў пяць замежных моў, у тым ліку і кітайскую, ды вырашыў авалодаць яшчэ і беларускай. І з Менска ён павёз творы беларускіх класікаў, каб перакласці іх на італьянскую мову.

Сёлета вучыцца ў школе пажадалі грамадзяне дзесяці краінаў з трох кантынентаў. Дасканала валодаюць нашай мовай прафесары Зальцбургскага універсітэта Герман Бідэр і універсітэта штата Індыяна Курт Вулхайзер, але і яны вырашылі ўдасканаліць свае веды. Герман Бідэр даследуе старабеларускую мову XIV—XVIII стагоддзяў. Яго першая навуковая праца была прысвечана арфаграфіі і фанетыцы Статута Вялікага княства Літоўскага (першай, 1529 года, і трэцяй, 1588 года, рэдакцый гэтага беларускага зводу законаў). Курт Вулхайзер вывучае гаворкі беларуска-польскага памежжа.

Асістэнт кафедры славянскіх моў Цюрыхскага універсітэта Пауль Сутэр даследуе кітабы, якія, як вядома, напісаны на беларускай мове, але арабскімі літарамі. Наша краіна прывабіла яго не толькі гэтай унікальнай культурнай з'явай, але і магчымасцю пазнаёміцца з працамі беларускіх даследчыкаў кітабаў. Як вядома, менавіта наш зямляк А. Мухлінскі, прафесар Пецярбургскага універсітэта, быў адкрывальнікам і першым даследчыкам свяшчэнных кніг беларускіх татараў, напісаных арабскімі літарамі на беларускай мове.

Сталі нашымі слухачамі прафесары Патсдамскага універсітэта Н. Брэдэрлоў, Славенскага педагагічнага інстытута М. Долган, Ольштынскай сельскагаспадарча-тэхнічнай акадэміі З. Навіцкі, студэнты з Аўстрыі, Канады, Нямеччыны, Польшчы, Славеніі, Швейцарыі, сын нашага земляка-эмігранта бельгіец Георгі Жучка. Гэты інжынер-патэнтавед ведае чатыры еўрапейскія мовы, але сёлета ўзяўся вывучаць мову сваіх продкаў. Не ведаючы ні слова па-беларуску, за 25 дзён ён навучыўся разумець сваіх субяседнікаў і нават умее сказаць некалькі простых сказаў. Аказваецца, што і за невялікі прамежак часу можна авалодаць зусім незнаёмай мовай. Ці не стане гэта добрым прыкладам для некаторых нашых службоўцаў, якія ўсё яшчэ не могуць звязаць двух слоў па-беларуску?

Прыехаў да нас і дэкан факультэта замежных моў Каірскага універсітэта Алі Шэйх. З гэтай нагоды абмеркаваны планы супрацоўніцтва нашых універсітэтаў. Егіпецкія калегі будуць весці падрыхтоўку некалькіх арабістаў на філалагічным факультэце БДУ, а ў сябе яны ўводзяць курс беларускай мовы. Яна будзе вывучацца як другая замежная мова. Егіпцяне прыедуць і ў Міжнародную школу беларусістыкі. Мяркуецца пашырыць супрацоўніцтва і на іншыя факультэты БДУ.

Падчас вучобы ў МШБ слухачы ўдзельнічалі ў Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў». 21 жніўня яны былі запрошаны на Міжнародны сімпозіум на тэму: «Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа ў кантэксце духоўнай культуры народаў свету».

Апроч вучобы, для слухачоў школы была падрыхтавана вялікая культурная праграма. Яны зведалі гарады Мір, Наваградак, Нясвіж, музеі, майстэрні мастакоў.

Хацелася б адзначыць, што Міжнародная школа беларусістыкі — толькі адна з формаў супрацоўніцтва навукоўцаў. Існуе цэнтр беларусазнаўства ў Цюрыху, умацоўваюцца сувязі з Шэлфідскім універсітэтам у Англіі, у якім выкладае Пітэр Маё, аўтар граматыкі беларускай мовы для тых, хто гаворыць па-англійску, з інстытутам славістыкі Лонданскага універсітэта, дзе працуе прафесар Джэймс Дынглі.

ВНУ, творчыя арганізацыі, таварыствы, суполкі, якія знаходзяцца ў Беларусі і за яе межамі, могуць вызначыць свае пастаянныя стыпендыі ў МШБ і накіроўваць на вучобу сваіх слухачоў. Мы запрашаем да супрацоўніцтва прадпрымальнікаў, каб працаваць разам, ажыццяўляючы разнастайныя культурна-асветніцкія і эканамічныя праграмы. У МШБ ужо ёсць некалькі цікавых прапаноў некаторых славістычных і агульнаадукацыйных прадпрымальніцкіх цэнтраў з Англіі, Швейцарыі, Францыі.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ,**
**дырэктар Міжнароднай школы беларускай мовы, літаратуры і культуры.**

***АД РЭДАКЦЫІ. Безумоўна, Міжнародная школа беларусістыкі робіць вялікую і важную справу. Яе выпускнікі панясуць у свет свае веды пра нашу краіну, пра яе таленавіты і працавіты народ. Гэта вельмі важна для нас, беларусаў. Але нельга не звярнуць увагу на адзін важны аспект навучання. Шмат хто са слухачоў прыехаў у Менск з мэтай удасканалення ведання нашай мовы, каб пасля выкладаць яе ва універсітэце. І тут яны сутыкнуліся з нашай нацыянальнай бядой — неўнармаванасцю беларускай мовы. Як жа трэба будзе пісаць і гаварыць,— пытаў свайго выкладчыка прафесар Герман Бідэр,—*** *у Зальцбургу ці ў Зальцбурзе?* ***Для яго, прафесара, гэта зусім не простае пытанне. І што мог адказаць яму Сяргей Запрудскі, калі ў акадэмічнай граматыцы напісана, прыкладам,*** *аб дзедзе,* ***а ў граматыцы, што падрыхтавана мовазнаўцамі Менскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута,—*** *аб дзеду.* ***А што скажуць слухачы дома, адкуль яны вярнуліся:*** *з Менску ці з Менска?* ***Як бачым, тут значная праблема нават для саміх беларускіх мовазнаўцаў. Але яны, носьбіты мовы, могуць што-небудзь прыдумаць, памяняць канструкцыю сказа, адчуўшы недарэчнасць ці немілагучнасць. А што рабіць замежным прафесарам, якія звыкліся з ладам і строгасцю навукі?***

*Слоўнікі*

# І стандартызацыя павінна мець нацыянальнае аблічча

Апаламляльны націск рускай мовы ў 30—80-ыя гады быў надта згубны для блізкароднасных беларускай і ўкраінскай. Найбольш выразна выявілася гэта ў лексіцы, што абазначае грамадска-палітычнае жыццё, бо яна толькі пачала фармавацца на пачатку гэтага стагоддзя.

Багатая спадчына нашай літаратурнай мовы не стала асновай фармавання афіцыйна-справавога і юрыдычнага стыляў, бо ні афіцыйныя паперы, ні судаводства на беларускай мове доўгі час (XIX — пачатак XX ст.) не вяліся. Але ў народзе захаваліся і назвы судовых установаў, найменні адметных злачынстваў і пакаранняў. Ці не час звярнуцца да сапраўдных крыніцы моўных сродкаў для гэтых стыляў? А калі ствараць тэрміны для абазначэння новых з'яў, рэалій і паняццяў, то трэба браць за ўзор такія, у якіх адлюстравана своеасаблівасць народнага ўспрымання.

Сучасная тэрміналогія філасофіі, палітэканоміі, права надта засмечана русізмамі.

Нашы назіранні над матэрыяламі «Русско-белорусского словаря общественно-политической терминологии» (Мн., 1970) паказваюць, што большасць грамадска-палітычных тэрмінаў утворана па мадэлі расійскіх: вещевое право — рэчавае права (с. 41), предупредительный закон — папераджальны закон (с. 283). Шмат тэрмінаў у слоўніку ўвогуле не перакладзена, а проста аформлена з улікам беларускіх фанетычных асаблівасцяў: отзовизм — адзавізм (с. 235), начётничество — начотніцтва і г. д.

У складаных тэрміналагічных назвах кожнае слова перакладаецца паасобку, замест натуральнага падбору адпаведнікаў падаюцца фразеалагічныя калькі: обвинительное заключение — абвінавачае заключэнне (с. 211), наследственное право — спадчыннае права (с. 197), налоговое право — падатковае права (с. 193) і інш.

Большасць грамадска-палітычных тэрмінаў у беларускай частцы слоўніка ўтворана ад не беларускіх каранёў, напрыклад: избыточный доход — збытачны даход (с. 92). У беларускай мове няма слова «збытак», а толькі «лішак» — «тое, што перавышае якую-небудзь норму, меру». Значыць: избыточный доход — лішкавы даход. Або словазлучэнне «агараджальная пошліна» (с. 273). Што яно значыць? Адразу адчуваецца, што ўтворана ад рускага ці царкоўнаславянскага дзеяслова «оградить», «застеречь», бо ў беларускай мове «агараджаць» — «абнесці што-небудзь агароджаю». Такім чынам, каб дакладна перадаць значэнне пошліны (гэта пошліна ахоўвае краіну ад пранікнення чужых тавараў), можна ўжыць тэрмін «ахоўная (засцерагальная) пошліна».

Парушаюцца і іншыя словаўтваральныя нормы беларускай мовы. Напрыклад, выкарыстоўваецца нехарактэрны для беларускай мовы суфікс *-ірава-*. Калі параўнаць ужыванне дзеясловаў з гэтым суфіксам у рускай і беларускай мовах, то бачым, што ў першай усе пазычаныя дзеясловы, а таксама аддзеяслоўныя ўтварэнні з суфіксам *-ірава-* *(-ырава-)* ужываюцца без абмежаванняў. У беларускую мову такія дзеясловы звычайна пранікалі і пранікаюць праз расійскую, але яны, як і іншыя моўныя адзінкі, падпарадкоўваюцца законам беларускай мовы і ўжываюцца з суфіксам *-ава-*, а не *-ірава-*, як у суседзяў. Параўнаем: бойкотировать — байкатаваць, дебатировать — дэбатаваць, комбинировать — камбінаваць. Неўласцівы жывой народнай гаворцы суфікс *-ірава-* штучна падтрымліваецца экспансіяй расійшчыны.

Некаторыя словы, што падаюцца і ў «Русско-белорусском словаре общественно-политической терминологии» з суфіксам *-ірава-*, у «Слоўніку беларускай мовы» (1987) ужо не маюць яго. Напрыклад: візаваць, візаванне. Ці выпадкова гэта? Мне здаецца, што не. Гэта адлюстроўвае тэндэнцыю да вызвалення беларускай мовы ад пазычаных неўласцівых ёй словаўтваральных сродкаў. Таму і ў іншых выпадках трэба пазбаўляцца гэтага суфікса, адмовіцца ад перайманне і не пераносіць заканамернасці іншых моваў на беларускую. Зусім арганічна будзе гучаць па-беларуску: нармаваць, амніставаць, унармаваная мова.

Усім нам трэба больш уважліва ставіцца да слова. Настала пара даць правільную ацэнку тым рысам, якія ўзніклі наперакор заканамернасцям нашай мовы, адкінуць усё тое, што не адпавядае традыцыйна выпрацаваным, апрабаваным беларускім нормам.

Зварот да роднай мовы ў адраджэнскі час выклікае вострую патрэбу ў стварэнні слоўніка беларускай грамадска-палітычнай тэрміналогіі. Сюды павінны ўвайсці тэрміны, створаныя на ўласна-беларускай лексічнай аснове пры дапамозе ўласнабеларускіх словаўтваральных сродкаў. А калі і браць з іншых моваў, то і тут беларуския нормы не павінны парушацца.

**Іна КАРПУЦЬ,**
**асістэнт кафедры мовазнаўства Гродзенскага дзяржуніверсітэта.**

## Кароткі слоўнік эканомікі

ІНФЛЯЦЫЯ. Без гэтага слова зараз не абыходзіцца ніводзін аўтар, калі піша пра айчынную эканоміку. Паходзіць ад лацінскага і спачатку азначала проста «надзіманне». У эканоміцы гэта «надзіманне» дзяржавай сферы гандлю папяровым грашыма, не забяспечанымі рэальнымі таварамі ці не падмацаванымі «сапраўднымі» грашыма — золатам. Суправаджаецца, як мы самі пераканаліся, ростам цэн і змяншэннем рэальнай заработнай платы, якую не замяніць павелічэнне колькасці дзяржаўных «каштоўных папер», што выпускаюцца для пакрыцця дэфіцыту доўгу дзяржавы замест паляпшэння эканамічных адносін. І. стала характэрнай прыкметай нашай сучаснай эканомікі і абумоўлена высокім узроўнем расходаў на невытворчую сферу — утрыманне вялікай арміі, у тым ліку чыноўніцтва, манапольнае становішча шэрагу важнейшых прадпрыемстваў, якім дазваляецца павышаць цэны на сваю прадукцыю без паляпшэння яе спажывецкіх якасцей, павелічэнне заработнай платы без адпаведнага росту вытворчасці працы і іншае. Для барацьбы з І. праводзяць палітыку ДЭФЛЯЦЫІ.




*Рубрыку вядзе*

***Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

Ян Каханоўскі (1530—1584) — выдатны польскі паэт эпохі Адраджэння. Ён пісаў на лацінцы і па-польску: у «Канцыянале», выдадзеным у 1563 годзе ў Нясвіжы, змясціў гімн «Чаго хочаш ад нас...», пазней некалькі твораў прысвяціў Радзівілам. Паэзія Каханоўскага чыталася ў нас на мове арыгінала і не адно стагоддзе ўваходзіла ў кантэкст культурнага жыцця Беларусі. Таму сённяшні пераклад твораў паэта на беларускую мову — гэта найперш вяртанне ў нашу гісторыю.

***Ян КАХАНОЎСКІ***

## *Элегія VIII (урывак)*

Як гэта стала: не плюшчацца вочы і сон не прыходзіць,
Мне супачынак цяпер штосьці не мілы зусім,
Сонца лянотным здаецца, а ноч падаўжэла намнога,
Цела завяла маё і адранцвела душа?
Я не хварэю пакуль, не калоціць мяне ліхаманка —
Вецер халодны не дзьме, сонца яшчэ не пячэ.
Гэта — пакуты кахання, а ты, дарагая дзяўчына,
Мабыць, пад зоркаю злой — гэткай прыгожай жывеш.
Я размаўляю з табою, адсутнай, і сню цябе часта,
Днём ты — панылласць мая, ноччу — мучэнне маё.
Злітуйся ж ты, заклінаю раскошай пачуццяў Венеры,
Лукам і вострай стралой, што ў Купідона ў руках.
Злітуйся ж ты і не дай, каб мой дух, які створан відочна
Славіць цябе да нябёс, ціха ў сумоце марнеў.
Будзь жа зычлівай са мною; я ж, нібы супернік Арфея,
Гэткія вершы, што й звер іх зразумее, складу.
Колісь Арфей пакарыў і дубы, і халодныя скалы —
Ці ж тваё сэрца заўжды будзе цвярдзейшым за мур?
Ох, і бяда мне! Бо сённяшнім часам куды ні памкніся,
Музы — ў пашане малой, вершы — ў пагардзе зусім;
Тых жа адно паважаюць і любяць сягоння,
Чый увесь розум і спрыт месцяцца ў скрыні з дабром.
Медныя дзверы падвойныя ім адчыняюцца проста,
Іх не турбуе гайня злосных і чуйных сабак.
Мне ж з гучна-галасным Фэбам і з Музамі разам маімі
Дзеўка не дасць пастаяць зноў ля замкнёных дзвярэй:
Варта яе і сабака ад дома мяне праганяюць,
А як што-небудзь ім даць — будуць, напэўна, маўчаць.
О, сарамота сваёй прыгажосцю шукаць сабе пана
І аддавацца самой волі ды сіле яго!..

**Пераклад з лацінскай Уладзіміра МАРХЕЛЯ.**

## *Паненцы*

Імя тваё, паненка, называю:
Яно ў паэзію маю ўпісана,
А як людзьмі ўжо будзе прачытана —
Вышэй ад іншых застанешся, знаю.

Калі б цябе я з мармуру паставіў
Ці нават з золата цябе адліў бы
(Таго не варта прыгажуня хіба) —
Табе мацнейшай славы б не набавіў.

І маўзалеі, гарады Егіпта
Пазбегнуць смерці ўсё-такі не могуць;
Або вада, або агніска прагавіты,
Або зайздросныя гады іх змогуць.
У вершы толькі слава не знікае —
І час, і гвалт без страху сустракае.

**Пераклад з польскай Уладзіміра МАРХЕЛЯ.**

## *Паэзіі радок чароўны*

***Міхась БАШЛАКОЎ***

* * *

Ах, Іван...
Ах, Іван Дамінікавіч...
Сэрца, сэрца
Знямогла ад болю —
Мова народа вялікага,
Нібы птушка,
Ірвецца на волю,
Б'ецца,
Трапечацца...
А не пускаюць
Раўнадушша нашага краты...
Вырвецца, родная,
Нават не знаю,
Хто будзе рады?
Хто будзе рады?
Адвярнуўся
Народ наш
Ад песень і мовы...
Што нам пакінулі?
Піць?
Ды лаяцца?
Вось і п'ём,
Прапіваем
Апошняе слова...
Ах, Іван Дамінікавіч,
Усё паўтараецца...
Чуеце,
Там, дзесь
Далёка-далёка
Ваша жалейка плача?
Божа высокі,
Божа высокі,
Мы звар'яцелі,
Няйначай?
Што ж мы кідаемся
Матчынай мовай,
Нібы апошнія грэшнікі?!
...Ўецца, струменіцца
Звонкай падковай
Светлы раўчук
Між алешніку...

***Алесь СТАВЕР***

## *Мова мая*

Мова мая, беларуская, мілая.
Чаму для начальства ты стала «постылою»?
Навошта табою яно пагарджае
І гэтым мой слаўны народ абражае.

Мова мая, беларуская, вечная.
Не раз чужакамі была ты зняважана,—
Таму беларус у настроі ці ў горы
На мове сваёй часам кепска гаворыць.

Мова мая, беларуская, родная.
Няхай жа цвіце твая гожасць прыродная.
У сумныя дні і ў часы навальніцы
Народу майму будзь гаючай крыніцай.

***Янусь МАЛЕЦ***

* * *

Ружавее, пунсавее, задыхаецца завея,
Сонца высунула з хмар
Задаволены свой твар.

Па-над лесам, па-над полем развінаецца раздолле,
І выпырхваюць з-пад ног
Дні пакут і дні трывог.

Асвятляецца дарога да пакаяння, да Бога;
Уваходжу ў новы дзень.
А за спінай —
Чорны цень...

***Юры ГУМЯНЮК***

* * *

*Данучэ БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ*

На шчацэ каралевы Боны
дыяментам блішчыць сняжынка.
Разыходзяцца ў лесе сцяжынкі.
Расплываюцца ўсе каноны.

Па-над лесам віруюць жаданні,
бы малітвы да Маткі Боскай.
А над горадам вецер злосны,
І сустрэчы, як развітанні.

## *Агністы мак*

*Алесю АЎЧЫННІКАВУ*

На гэтым белым прасцірадле
нічога не расце
ліхія кіпарысы дзе-нідзе
збіраюць раду
я вельмі рады
што нарэшце
на гэтым белым прасцірадле
адбудзецца цуд.

Пакінем абыякавасць і бруд
легенды і падманлівае радыё
рапсоды апоўначы
аднак
на гэтым белым прасцірадле
расце НІЧОГА проста так
а дакладней — агністы мак.

***Алег БЕМБЕЛЬ***

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—35).*

Нужен филиал Университета — в таком старажытном городе, как Полацк. В самом Университете нужно открыть славяноведческие факультеты (польский, чешский и т. д.) — как символ и инструмент яднання славянских культур. И философский — как центр культуры...

Белоруссия — удивительный феномен. Гигантское материальное развитие, которого никогда не было. Все наши заводы (я объездил всю Белоруссию) на новой, послевоенной технике. Огромный материальный потенциал — и низкий, очень низкий уровень общей культуры. Те положительные черты — сціпласць, гасціннасць, скромность, непритязательность... Эти великолепные черты могут обернуться отрицательной своей стороной — духовной инертностью, которую нужно преодолеть... Прав Короткевич, который говорит, что самое несчастье у нас — это руководство...

Если б я не познал белорусов, я никогда бы не понял и русский национальный характер. Русские тоже претендуют на скромность — но ей там и не пахнет... Циолковский... Человек без культуры, без ничего, на пустом месте, из лужи — делает такие вещи!.. Можно привести много примеров в этом плане.

Шукшин — острое русское, настоящее сучасное русское искусство. Оно может обогатить настоящее (в том числе и бел. литературу). Но характеры Шукшина абсолютно не соответствуют белорусскому восприятию, это нужно тоже видеть.

Я бы хотел видеть белорусскую культуру со своим потенциалом, но впитавшую лучшее из других, прежде всего соседних культур. Лучшие моменты русской и польской, украинской и литовской культур должна белорусская культура концентрировать — и на этом фоне развивать своё, национально-белорусское. В этом — моя основная мысль.

Я изначально не приемлю взгляд, что национальные духовные культуры должны сливаться автоматически и безусловно — следом за экономикой...

**(20 гадоў, руская, студэнтка БДУ)**

— Адны кажуць: белорусский язык — мёртвый язык, типа латинского. Он становится языком круга замкнутого, который приближается не к культуре народа, а к культуре прошлых веков — как греческий или латинский. Он приближает к пониманию судьбы народа.

Ассимиляция, русификация — эти понятия где-то должны найти выход...

Язык белорусский потому не нашёл достаточного места в литературе союзной и в той мере, в какой он не смог пробиться на Запад. Нас, сучасных паэтаў, публикуют в тех же подборках, в которых публикуются алеуты и эскимосы... как этнографическую редкость.

Путь Б. — дать языку адраджэнне. Но не по приказу. Это рождается потребностью... Б. — это борьба за язык, за культуру белорусскую, которая воистину должна быть сохранена... сохранена для потомков...

Выйти на грань... Поэзия Б. непереводима... На русский мы пробовали.. Теряется нешта істотнае...

Тут — та грань, где белорусский поэт, его световосприятие, его образность, символика... Его Библия, которая будет зафиксирована как Истина белорусская, Истина его времени...

Когда мы говорим: Беларусь, мы тебя не покинем!.. Ты — наш край!.. — И говорим это из сборника в сборник... Этот клич до того стал инертным!.. Его выхолостили, кастрировали...

Это действительно — «страшный суд»... Благодаря успехам людей, которые могут говорить по-белорусски... Поэт, зная мову, скрывается за этими словами, становится штатным человечиком, который говорит штатным словом...

Нужно не говорить, а делать культуру, литературу этой нации, о которой нельзя было бы молчать!.. Тогда это будет то, что требует живая нация...

**Три момента** прослеживаются ясно.

Есть ли реальные пути сохранения?.. Сохранения духа культуры, которая до конца себя не выразила?.. В потенции она осталась великой, но реально, в языковом выражении, она перешла на другие языки.

*(Працяг будзе).*

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—35).*

— Чаго кіпяціцца зараз. Справа зроблена...— сказаў я і ўзяў частку банкнотаў.— Чвэрць ад шасці тысяч ста сарака двух долараў — гэта паўтары тысячы трыццаць пяць. Плюс дзвесце за рэвальверы, што ў суме дае тысячу семсот трыццаць пяць. З тысяччу, якую табе вінная Холідэй, гэта складае дзве тысячы семсот трыццаць пяць.

— Чакай! — умяшаўся Джынкс.— А мая доля? Што яму вінная Холідэй, гэта мяне не цікавіць. Адымі спачатку ад усіх грошай тысячу семсот трыццаць пяць для яго, а мы ўдвух дзелім рэшту. Усяго нам застаецца чатыры тысячы чатырыста сем долараў. Я бяру дзве тысячы...

Я кінуў грошы на стол.

— Дзялі! Ты так сячэш у лічбах, што дзяліць трэба табе.

— Умомант,— сказаў ён і пачаў адлічваць долю.

Тут увайшоў Нэльс. Убачыўшы такія грошы, ён ажно застыў, ашаломлена пазіраючы на банкноты.

— Дык гэта з-за іх такая буза вакол Хартфарда? — запытаўся ён.

— Трохі з-за іх,— адказаў я.— Але, відаць, найбольш з-за трупа малочніка. Мне прыйшлося стукнуць яго два-тры разы. Стары ж чалавек. Можа, я яго і забіў.

Мэйсан нічога не сказаў, ён быў надта ўсхваляваны, каб адрэагаваць яшчэ і на гэтую навіну, і толькі пакусваў верхнюю губу. Але Нэльсан, устрывожаны, павярнуўся і паглядзеў у расчыненыя дзверы на «Зэфіру».

— Не турбуйся,— сказаў я яму.— Пра гэта ўсяго толькі напішуць у хроніцы.

— Але цяпер гэта ўжо забойства,— павольна сказаў Мэйсан.

— Вельмі верагодна,— прамовіў я.

Джынкс павярнуўся да нас. У руках у яго былі нашы долі.

— Трымай,— сказаў ён мне.— Зараз ты можаш выплаціць доўг.

Я адлічыў тысячу долараў і працягнуў іх Мэйсану.

— Ёсць яшчэ дзве ці тры драбнічкі, якімі трэба заняцца,— сказаў я.— У «Зэфіры» ты знойдзеш халат і кепку малочніка, а таксама дзве карнавальныя маскі. Лепш, каб іх не было. І на тваім месцы я пазбавіўся б ад чэкаў...

Калі я вярнуўся ў кватэру Холідэй, яна яшчэ была ў ложку, але ўжо не спала. Падыходзячы да адчыненых дзвярэй спальні, я паспеў заўважыць, як яна раптам трохі выпрасталася і падрыгалася — з яе саслізнула прасціна, і ў яе агаліліся грудзі... Калі я ўвайшоў, яна смяялася і пажадна глядзела на мяне.

— Ты маеш добрую падставу,— сказаў я,— пакапэтнічаць са мной. Я толькі што выкінуў на цябе тысячу долараў.

— Дык я ўжо нічога не вінная?

— Нічога.

Я расшпіліў кашулю і дастаў грошы, якія схаваў ад Джынкса і Мэйсана.

— Гэта ўсё, што ў нас засталося? — спыталася яна.

— Смяешся? — сказаў я, дастаючы з кішэняў сваю долю.— Я працаўнік, разумееш? І мне здаецца, што калі мужчына вяртаецца зняможаны дахаты, жанчына прынамсі павінна згатаваць яму кубак гарачай кавы.

Яна зарагатала. Скінула з сябе нагамі прасціну і, аголеная, павярнулася да мяне.

— Што ты сказаў накont гарачай кавы? — запыталася яна.

«Спадзяюся, што калі-небудзь я змагу глядзець на гэта, не чуючы адразу ж нябесную музыку»,— падумаў я, засоўваючы грошы ў кішэні пінжака.

— О, табе, мабыць, здалося,— сказаў я, здымаючы пінжак, і лёг у ложак.— Я нічога табе не казаў пра гарачую каву...

## VI

Я сядзеў за сталом на кухні, піў гэтую самую гарачую каву і балбатаў з Холідэй: расказваў ёй пра Мэйсана, пра тое, як ён усхадзіўся, нібыта старая баба. Я дзівіўся, што гэтая размазня можа займацца такімі небяспечнымі справамі, як раптам ва ўваходныя дзверы нецярпліва пастукалі. Холідэй спалохана паглядзела на мяне, ды ў мяне самога сэрца сціснулася, так гэта было нечакана.

— Заставайся тут,— сказаў я ёй і прайшоў у гасцёўню.

У дзверы пастукалі зноў, вельмі моцна, аж занадта. Я падышоў бліжэй да дзвярэй і ціхенька дастаў рэвальвер.

— Хто там?

— Гэта я, Мэйсан. Адчыні.

Голас і праўда быў Мэйсанаў. Думаючы, што ж гэта магло прывесці яго сюды, я засунуў рэвальвер назад у кішэню і адчыніў дзверы. Калі я іх адчыняў, то ўбачыў, што на мяне кінуліся двое мужчын. Я хацеў сустрэць іхнія лбы дзвярыма і зноў дастаць рэвальвер, але зрабіць гэта яны мне не далі — адштурхнулі мяне плячыма і ўварваліся ў вітальню. Малойчыкі былі каржакаватыя, росту сярэдняга, адзін трохі шырэйшы, у абодвух былі рэвальверы. Выжлы былі бачныя за кіламетр.

— Рукі ўверх! — сказаў меншы.

Я ўзняў рукі.

Другі, шырэйшы, зайшоў мне за спіну і дастаў з кішэні маіх штаноў рэвальвер. Мэйсан, які, відаць, назіраў за сцэнаю з-за дзвярэй, увайшоў у вітальню. Пераступіўшы парог, ён прытуліўся да ліштвы.

— Сука! — кінуў я яму.

— Спакайней! — сказаў меншы.— Раз вы ўжо ўвайшлі, дык можаце зачыніць дзверы.— Ён павярнуўся да напарніка: — Рыс, ідзі пашукай кабету.

— Підар! — крыкнуў я Мэйсану.

— Ціха! — гаўкнуў меншы.

На кухні, відаць, Холідэй счапілася з ганчаком. Пачулася лёгкая валтузня. Холідэй вішчэла. Нарэшце Рыс прыцягнуў яе за руку. Холідэй была босая, у кімано, твар скрыўлены ад шалу.

— Б'ецца што тыгр,— сказаў Рыс.

Раптам Холідэй вырвала сваю руку з ягонай, кінулася да Мэйсана і ўляпіла яму поўху.

— Хопіць,— рыкнуў меншы, паварочваючыся да яе.— Не дуры, чуеш!

— Я яе прыдушу, гэтую падсцілку! — зароў Мэйсан.

Холідэй зноў заляпіла яму поўху і абадрала ўсю шчаку — праз яе пралеглі тры чырвоныя паласы. У руках у Мэйсана бліснуў нож, я пачуў шчаўчок, Мэйсан замахнуўся, але ў той самы момант меншы ганчак ударыў яго ў падбародак барабанам рэвальвера... Мэйсан заморгаў вачыма, пакратаў падбародак далонню, потым паглядзеў на пальцы, шукаючы кроў.

— Пакладзі нож у кішэню і матай адсюль,— сказаў меншы.— Давай, шуруй!

Мэйсан схаваў нож, выцер твар рукавом курткі, адчыніў дзверы і выйшаў. Меншы нахіліўся і абапёрся на дзверы, каб пераканацца, што яны добра зачыненыя, затым зноў падышоў да мяне.

— Я яго таксама цярпець не магу,— сказаў ён.— Але трэба быць справядлівым: у яго залатое сэрца. Ты не ведаеш, што ён зрабіў перад тым, як прыйсці сюды? Усе бабкі, якія ты яму даў, гэта значыць, дзве тысячы семсот долараў, ахвяраваў...

— Я думаю, ён не ведае, што за бяда ў старой,— заўважыў Рыс.

— Праўда? Ты не ў курсе? — запытаўся ў мяне меншы.— Летная пані, туберкулёзная...

— Якая пані? — нічога не разумеў я.

— А тая, мужа якой ты прыстукнуў. Малочніка,— ліслíва сказаў ён.— Яна туберкулёзная. Мы пашлём яе ў Арызону...

— Дакладней, Мэйсан яе пашле...

— О не, ён адзін гэтага не пацягне,— запярэчыў меншы.— Мы таксама знойдзем, што дадаць... На гэтыя дзве тысячы семсот долараў надта не разгонішся. Ёй спатрэбяцца дактары і санітары, жытло, есці ёй трэба — і, мабыць, не адзін год. Трэба штук сем-восем...

Туман, якім зацягнула мае мазгі, рассейваўся. Вось дае быў адказ на пытанні, што мучылі мяне: як яны паспелі ўжо ўсё ўведаць, як змаглі пачаць збіраць ахвяраванні жанчыне, якая ўсяго толькі гадзіну як стала ўдавою,— гэта быў шантаж майстроў сваёй справы. І тут у мяне ажно кішкі вывернуліся: ганчак, які цябе шантажыруе, можа проста цябе забіць, як толькі пакладзе ў кішэню грошы. Забіты пры супрацьдзеянні ўладам,— так яны кажуць,— схема неадменная, і вось чаму: галоўная не вартасць — надзейнасць, юрыдычная неабвержнасць.

— Добра, будзем забіраць,— сказаў меншы.— Трэба надзяваць наручнікі, Рыс?

— Не думаю. На ім нічога няма...

— На мне таксама! — абсекла яго Холідэй і распахнула крысы кімано: глядзіце! Выжлы, разгубіўшыся, аж здранцвелі і ці не застагналі, бессаромна ўтупіўшыся ў яе,— такая ім адкрылася спакуса.

— Можаш апусціць рукі,— сказаў мне меншы.

Я апусціў.

— Раз мы вас павядзём,— сказаў Рыс Холідэй,— я дапамагу табе скласці рэчы...

— Так, можа, лепш будзе,— адказала яна, запахваючы крысы кімано. Але пояс не завязала— і калі пайшла, па-змоўніцку падмаргнуўшы мне, у спальню, а следам за ёй пасунуўся гэты тоўсты разлезлік, доўгая вяроўка цягнулася па падлозе.

— Мне таксама трэба было б адзецца,— сказаў я меншаму.

Я не раўнаваў: мне толькі трэба было ўзяць мой пінжак, які ляжаў каля ложка. У ягоных кішэнях былі ўсе мае грошы. Вось чаго я хацеў — грошай.

«Як толькі ён убачыць пінжак,— падумаў я,— то адразу ж праверыць, ці ёсць у кішэнях рэвальвер, і знойдзе грошы, а гэта зробіць іхнюю задачу надта лёгкай: яны забяруць капусту, а нас павяжуць, і тады ўжо я хоць ахрыпну, нічога нікому не дакажу — ніхто не паверыць...»

— Вы не будзеце супраць, калі і я ахвярую што-небудзь удаве? — спытаўся я.

— Вядома. Колькі ты можаш даць?

— Прыблізна тысяча чатырыста...

Паліцэйскі абурыўся.

— Абарзеў! — незадаволена паглядзеў ён на мяне.— Ты ўзяў шэсць штук, ці ж не так? Дык тысяча чатырыста...

— Гэта ўсё, што мне засталося,— растлумачыў я.— Я аддаў дзве семсот Мэйсану і дзве штукі другому тыпу. Вось ужо амаль пяць штук. Гэта мой першы тут выхад... Вы ж не станеце думаць, што я рызыкую ўсім дзеля некалькіх сотняў долараў? І так можна радавацца, што выкруціўся гэткай цаною — і я вам удзячны. Але, праўда, гэта ўсё, што ў нас ёсць — тысяча чатырыста.

— Добра, добра,— сказаў ён.— Дзе бабкі?

— У кішэні майго пінжака, вунь там.

— Дзе — там?

— Каля ложка. Можа, на яго прасціна ўпала. Пайду пагляджу.

— Не турбуйся,— сказаў ён і ступіў колькі крокаў да дзвярэй, не зводзячы з мяне вачэй.— Гэй, Рыс!.. Рыс!

— Што?

— Паглядзі пінжак мальца. Ён павінен быць каля ложка...

Вочы ў яго бегалі, на твары нічога нельга было прачытаць. Напарнік кінуў яму пад ногі пінжак. Рэвальвер глуха стукнуўся аб падлогу. Ганчак зірнуў у спальню, потым падабраў пінжак, узяў рэвальвер і паклаў сабе ў кішэню. Нарэшце знайшоў грошы, адкінуў пінжак і ўдарам нагі адфутболіў яго да канапы.

— Нам трэба хоць бы сотню, каб дабрацца да Арызоны,— сказаў я.

Не звярнуўшы на мае словы ніякае ўвагі, паліцэйскі паклаў грошы ў кішэню. Ён увесь час паглядаў у спальню.

— Гэй, Рыс,— сказаў ён,— прывядзі цёлку...

У мяне зноў усё перавярнулася ўсярэдзіне. Калі ён сабраўся адпусціць нас, дык навошта тады яму Холідэй? Ён павяжа нас, жывёліна!

«Добра, недаверак,— падумаў я,— я буду выць пра гэтую капусту, нават калі мяне саб'юць на горкі яблык...»

Рыс і Холідэй выйшлі са спальні. Холідэй надзела спадніцу і твідавую куртку, у яе руцэ быў капялюш і адзін туфель.

— Вы мне дасце адзецца да канца? — спыталася яна.

— А навошта? — усміхнуўся меншы.— Ты нікуды не пойдзеш...

— Мы пакінем іх тут? — спытаўся Рыс.

— Але, так будзе лепей...

— У такім разе,— сказаў Рыс,— я дапамагу ёй раздзецца...

Меншы злосна зірнуў на яго і сказаў мне і Холідэй:

— Валіце туды абое...

«Усё,— падумаў я.— Яны не папруць нас у каталажку, а проста заб'юць тут».

Холідэй стала якраз каля мяне, і я патроху пачаў адступаць, так, каб яна была паміж рэвальверам і мною; я пільна сачыў за ўказальным пальцам Рыса, сагнутым на курку, і ўжо разлічыў: як толькі ён стрэліць першы раз, я адразу ж кінуся на меншага...

— А зараз слухайце мяне,— сказаў гэты самы меншы.— Вы пакінеце горад, але не разам і не на адным аўтобусе. Я паўтараю: не на адным аўтобусе. І не ўздумайце вярнуцца...

— Не бойцеся,— сказала Холідэй.— Мы не вернемся...

— Хадзем,— сказаў меншы Рысу, паварочваючыся да дзвярэй.

Я вачам сваім не верыў — тым не менш, гэта быў не сон: Рыс ішоў следам за меншым да дзвярэй.

— Калі ласка, пан,— рашыўся я,— аддайце мне мае рэвальверы.

Яны спыніліся. Меншы зірнуў на Рыса — той пацісну́ў плячыма. Тады меншы дастаў з кішэні мой рэвальвер, разрадзіў яго і кінуў на канапу. Рыс перадаў яму другі рэвальвер, і меншы зрабіў з ім тое ж самае. Нарэшце, яны, ні слова не кажучы, выйшлі і зачынілі за сабою дзверы.

Я ўсё яшчэ ніяк не мог паверыць таму, што здарылася: яны пайшлі, але небяспека па-ранейшаму вісела ў паветры... Я стаяў на месцы бы ўкапаны і дрыжэў. Холідэй глядзела на мяне, вылупіўшы вочы. Я сеў — ногі ў мяне былі проста свінцовыя.

— Я не згадзіўся б перажыць гэта яшчэ раз нават за мільён,— сказаў я.— Нават за дзесяць мільёнаў.

— Не так ужо і страшна ўсё было,— не згадзілася яна.

*(Працяг будзе).*

